Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з даставкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 31. Вільня, Серада, 6-га траўня 1925 г. Год I.

## Рознымі шляхамі.

Ня гледзячы на тое, што ў Беларускім Пасольскім Клюбе ў польскім Сойме ёсьць прадстаўнікі розных кірункаў палітычнае мысьлі,—дагэтуль у-ва ўсіх выступленьнях Клюбу выяўлялася поўная аднадушнасьць. І гэта—рэч зусім зразумелая: там, дзе прыходзіцца ўсю энэргію аддаваць на тое, каб *бараніць свой народ ад духовага, эканамічнага і прост фізычнага зьніштажэньня,* — там на *парляманцкім* грунце, на соймавай трыбуне, у якой прадстаўнікі народу прамаўляюць прад усенькім сьветам, перад беларускімі дэпутатамі істнавала толькі *адна супольная дарога, адна супольная тактыка.*

Але вось жыцьцё неўмаліма даказвае, што самыя гарачыя словы пратэсту, самыя слушныя дамаганьні беларусаў, абвяшчаныя ў польскім Сойме, гэта—„голас гукаючага ў пустыні“. І ў нашых дэпутатаў бачым імкненьне знайсьці нейкі новы выхад з утварыўшагася палажэньня, шуканьне новае дарогі—па-за Соймам.

Праўда, усе беларускія кірункі ў Пасольскім Клюбе згодны ў тым, што трэба больш працаваць беспасярэдня ў народных масах, арганізуючы іх на грунце *самадзейнасьці* — культурнае, эканамічнае, сацыяльна-палітычнае. Дый ня можа быць ніякае спрэчкі аб тым, што *толькі арганізованая сіла беларускіх працоўных масаў можа дадаць важкасьці словам і дамаганьням нашых парляманцкіх прадстаўнікоў*, можа найлепш *захаваць наш народ ад зьніштажэньня.*

Але ўзьнімаецца пытаньне: ці і такі важкі, падтрыманы блізу трохміліённай народнай масай, голас беларускіх паслоў Польшча — сучасная, або іншая—*ці пачуе*? Ці беларускае пытаньне трэба разьвязваць, як пытаньне *мяйсцовае*, у сувязі з жыцьцёвымі пераменамі ў межах краю, ці ў шырэйшым маштабе—у сувязі з *сусьветнымі падзеямі?*

Вось, на грунце гэтага *прынцыповага* пытаньня мы і бачылі першы раз разыходжаньне ў паглядах нашых дэпутатаў, якое выявілася на соймавай трыбуне. Адзначыў гэта ў сваей прамове, якую ніжэй друкуем, дэпутат кс. Станкевіч.

У апошняй прамове дэп. Тарашкевіч (гл. № 30 „Бел. Долі“) заявіў, што толькі перабудова сацыяльнага ладу ў шырокім міжнародавым маштабе „можа даць нам палітычныя правы, прынесьці нам нацыянальнае адраджэньне і вызваленьне“. І, калі прыпомнім, што беларускае пытаньне было *пастаўлена* ў-ва ўсім аб'ёме сваім не як мяйсцовае пытаньне ў царскай Расеі, а ў *сувязі з вялізарнымі падзеямі сусьветнага значэньня* (сусьветная вайна і сацыяльная рэвалюцыя ў Расеі),—дык сам сабой напрашываецца вывад, што і *аканчальнае вырашэньне* пастаўленага на такім грунце беларускага пытаньня магчыма толькі ў варунках, прадбачаных дэп. Тарашкевічам.

Вось з гэтым паглядам і не згаджаецца дэп. кс. Станкевіч, аб чым і заявіў з соймавае трыбуны ў зьмешчанай ніжэй прамове. І заява гэтая ў поўнай меры пацьвярджае тыя прадбачаньні, аб якіх мы пісалі ў № 24 „Бел. Долі“ у стацьці „Барацьба завастраецца“ — блізу месяц назад.

Праўда, *адзіны нацыянальны фронт пры самаабароне* выступленьнем дэп. кс. Станкевіча не нарушаецца. Але ўжо ясна відаць, што пры *наступленьні* прадстаўнікі беларускага народу будуць ісьці *да аднае мэты — рознымі шляхамі.*

А гэта—вынік *расслаеньня* беларускага грамадзянства на грунце *сацыяльнае ідэалёгіі*, розьніцы сацыяльнага сьветапагляду, што красамоўна гаворыць аб *росьце і дасьпяваньні беларускае грамадзкае мысьлі наагул.*

## Прамова дэп. кс. А. Станкевіча

*ў Сойме дна 28. IV. падчас дыскусіі аб бюджэце Асьветы і Рэл. Вызнан.*

Высокі Сойме! Мы знаходзімся ў тым дзіўным палажэньні ў Сойме, што ў справе свайго школьніцтва, праўду кажучы, ня можам забіраць голасу пазытыўнага, ня можам снаваць плянаў адносна нашага школьніцтва, што да мэтадаў навучаньня і павялічаньня бюджэту і г. д., бо-ж школ у нас бадай-што нямашака, а вызначанага бюджэту зусім ня мае. Змушаныя-ж цьвёрдай сапраўднасьцю, каторую прыгатаваў нам Урад і ўрады папярэднія, мусім агранічыцца толькі да сцьвярджэньня таго, чаго няма, і да выказываньня прычын, якія твораць толькі такое, а ня іншае палажэньне нашага школьніцтва.

Дата 31-га ліпня 1924 г. дата языковых уставаў, мела быць паваротнай датай у справе школьніцтва славянскіх меншасьцяў агулам, а гэтым самым і школьніцтва беларускага. Прынамся так разумеў беларускі народ, каторы запраўды праз цэлы рад гадоў не адзін раз выявіў свае зусім шчырыя жаданьні мець сваё школьніцтва ў матчынай мове, беларускай. Праўду кажучы, беларускае парлямантарнае прадстаўніцтва трохі іначай на гэта ўглядалася дзеля зразумелых прычынаў, бо ж мае дастатачную практыку ў адносінах урадаў да нас у гэтай справе, а з другога боку і дзеля прычын падставовых мы былі проці гэтага ўставу, бо агулам не ўважаем за выхад з палажэньня такога дзівацтва, якое называецца двуязычнасьцяй. Гэтую сыстэму ў прасьветнай палітыцы ўважаем за шкодную ня толькі для нас, але і агулам для ўзаемных адносінаў двух народаў: польскага і беларускага, не гаворачы ўжо аб зусім нэгатыўных пэдагагічных бакох.

Вось-жа, як я сказаў, наша люднасьць, каторая бліжэй за сваіх прадстаўнікоў глядзіць на гэтую рэч, думала іначай. Зьвярталася яна да ўраду масова, на моцы языковага ўставу з просьбай аб беларускія школы. Як заўсёды, так і тут люднасьць наша спатыкалася з адмоўным адказам з боку Ураду, нібы на тэй падставе, што ня было, яшчэ інструкцыі, як правадзіць языковыя ўставы ў жыцьцё.

Дапусьцім, што гэты матыў быў зусім слушны. Люднасьць, аднак, не дала ашукаць сябе. Не дала знеахвоціць сябе і ў далейшым працуе, вядзе барацьбу, дамагаецца сваей уласнай школы з выкладовай беларускай мовай.

Люднасьць наша скіроўвае сваю энэргію ў кірунку школы **прыватнай**. І запраўды бачым у восені мінулага і на пачатку цяперашняга году, што прыватныя беларускія школы паўстаюць папросту масава, іменна ў радзе паветаў, як у Слонімскім, Вялейскім і некаторых іншых. Але Урад упорна працівіцца гэтаму і пад грозьбай караў змушае беларускіх дзяцей, хадзіць да ўрадовых польскіх школ.

Маем факты, што напр. пакараны за такія рэчы вёска Бакуны ў Пружаньскім пав. і цэлы рад іншых вёсак; далей вёска Угрынь, Лядзіны, Хінявічы, Савічы ў пав. Слонімскім. Настаўнікі гэтых школ арыштаваны і цяпер, як ведаю, сядзяць ў вастрогах за прыватнае школьніцтва, як напр. настаўнікі: Надзея Капітончык, Вера Котрач, Ян Дожын і іншыя Слонімскага пав. Беларускія падручнікі канфіскаваны. Такім спосабам зьліквідавана прыватных школ беларускіх больш-менш да 50. Значыць, няслушна распаўсюджваньне і падаваньне вестак у заграпічныя газэты з польскага боку, быццам Беларусы — гэта недабіткі, быццам яны толькі аглядаюцца на Урад і ўрадовыя субсыдыі, а самі да нічога ня здатныя. Довадам гэтага меў служыць факт, што Беларусы наагул ня маюць прыватнага школьніцтва.

Як паны бачыце, мы прапарцыянальна да сваіх сіл штось мелі-бы і можам мець, калі-б адносіны Ураду да беларускай люднасьці былі зусім лёяльныя і папраўныя.

Наканец, надыйшлі тыя слаўныя інструкцыі 7./І. 1925 г. Тую інструкцыю можна схарактэрызаваць, як адну перашкоду дзеля зьдзейсьненьня языковых уставаў, бо перадусім уносіць **няроўнасьць** у трактаваньні люднасьці польскай і беларускай, і бадай кожны пункт гэтай інструкцыі мае на воку перашкодзіць зьдзейсьненьню языковага ўставу.

Аднак, люднасьць і далей сцьвярджае сваю ахвоту і сваю волю на атрыманьне матчынай школы. Адбываюцца запраўдныя школьныя плебісцыты. Цэлыя масы залягаюць гміны з мэтай атрыманьня пасьведчаньня подпісаў тых асоб, каторыя жадаюць мець свае школы. У цяперашнім часе дэкларацыяў з подпісамі, жадаючых мець свае беларускія школы, ёсьць больш-менш, здаецца, на 200 школ, пераважна ў паветах усходніх ваяводзтваў.

Але мушу тут зазначыць увесь ход здабываньня пасьведчаньняў подпісаў на падставе ўставу ў гмінах. Тут люднасьць папросту праходзіла запраўдныя мукі, бо войты гмін былі зусім безадказнымі і поўнымі панамі палажэньня. Гміны сыстэматычна адмаўляліся сцьвярджаць подпісы, не зварочваючы ўвагі на загады інструкцыі і на самыя ўставы.

Войты зусім бяспраўна вымагалі платы, а надта часта канчалі гэтыя справы зьдзекамі над беларускай люднасьцяй. Успомнім тут пэўныя факты, дайшоўшыя да нас, а не дайшоўшых то і на воловай скуры ня сьпісаць! Вот-жа так паступалі гміны: Маладэчна і Хаценчыцы, Вялейскага пав., гміны Парплішча і Парафянава, Дунілавіцкага пав., гміны Язна, Празарокі—Дзісьненскага пав., гміна Палачаны, Ваўкавыскага пав., гміна Бэршты, Горадзенскага пав., гміна Беліца, Лідзкага пав., гміны: Сьвіслач, Ізабэлін, Ваўкавыскага пав., цэлы рад гмін Пружанскага пав., гміна Свержэнь Стаўпецкага пав., гміны: Старавейская, Казлавецкая, Пацаўская, Дзярэўна, Марынская — Слонімскага пав., гміна Смаргоні, Ашмянскага пав., і цэлы рад іншых.

Далей, паліцыя так-жа ня была на вышыні свайго заданьня: яна таксама прылажыла свае тры грошы да зьнішчэньня, імкненьня беларускай люднасьці атрымаць сваю школу. Былі выпадкі, што ў вёсцы Вялікая Ліпа, Нясьвіжскага пав., паліцыя зрабіла рэвізыю ў людзей, каторыя жадалі мець сваю школу, і сканфіскавала школьныя дэклярацыі. Далей, паліцыя зрабіа рэвізію ў людзей, жадаючых мець матчыну школу, у вёсцы Новы-Сьвержань, Стаўпецкага пав. Зноўжа камандант пастарунку паліцыі ў гміне Хаценчыцы, Вялейскага пав., сьмяяўся сабе з беларускае мовы і з самых жаданьняў беларускай люднасьці ў кірунку здабыцьця беларускай школы. Да гэтага трэба яшчэ дадаць тыя масавыя аблавы, нядаўна адбытыя, што рабіліся перад усім у тых асоб, якія чынна працавалі ў кірунку здабыцьця сваей школы, г. зн. каторыя агітавалі за гэтую школу на законнай падставе і падавалі да подпісу дэклярацыі.

Але ня было-б гэта дзіўным, каб ня тое, што нават і школьныя інспэктары і тыя паказалі поўную нелёяльнасьць і злую волю адносна да беларускай люднасьці ў гэтым кірунку. Злая воля была ў тым, што інспэктары адмаўляліся даваць квіты на зложаныя дэклярацыі, вымагалі складаньня зараз мэтрыкаў тых дзяцей, якіх бацькі жадаюць беларускай школы, далей агітавалі, каб людзі адракліся ад сваіх подпісаў, зложаных за беларускую школу, ды каб далі подпіс на школу польскую, давалі паўнамоцтвы да падобнай

агітацыі сваім настаўнікам і г. д. Цэлая чарга надужыцьцяў і нелёяльнасьцяў сыпалася са стараны школьных інспэктароў на беларускую люднасьць, імкнуўшуюся да здабыцьця роднай школы.

Папісаліся гэтым найбольш школьныя інспэктары ў пав.: Ашмянскім, Вялейскім, Дунілавіцкім, Горадзенскім, Баранавіцкім, Косаўскім, Навагрудзкім, Нясьвіжскім, Пружанскім, Слонімскім. Дык паны бачыце, што на цэлым беларускім абшары бадай усе школьныя інспэктары, я гэта моцна цьверджу, паказалі поўную нелёяльнасьць адносна да беларускай люднасьці.

Аднак, не зварачваючы ўвагі на гэтыя страшныя перашкоды, людиасьць, кажу, падала дэклярацыяў больш-менш на 200 школ. Але, ведаючы добра ўсё палажэньне і адносіны да нас ураду—ніякай пэрспэктывы на беларускую школу мець ня можам. Прадбачу вось што: калі гдзесь які з інспэктароў прызнае, што ёсьць здавальняючая лічба дэклярацыяў у даным школьным абводзе і што тут мусіць быць школа беларуская, — то адказ будзе, што Беларусы ня маюць адпаведна выкваліфікаваных настаўнікаў.

І вось, тут мушу адзначыць, што ўжо блізка год мінуў, як Беларуская Школьная Рада ў Вільні падала Ураду паданьне аб дазвол на адчыненьне дапаўняючых курсаў для безработных беларускіх настаўнікаў, катэрых зарэгістраваных ёсьць 640 асоб, і аж да сяньняшняга дня ніякага адказу Школьная Рада не атрымала. З другога боку Урад знайшоў „казённых“ беларусаў, якія ў вачох ураду вельмі парадачныя, і гэтым абяцаў даць курсы, хоць і запраўды ня зусім у Вільні, бо спачатку быў праект у Быдгошчы, пазьней—пасьля стараньняў п. Тугутта, якія ня дужа нам памаглі, — паўстаў плян арганізаваньня гэтых курсаў у Кракаве, і падобна была такая мова аб беларускіх курсах у Вільні. Але, ужо паўгода мінае, і з гэтых абяцанак няма ніякага выніку.

Таксама і ў далейшым трэба сьцьвердзіць выразную нетолеранцыю і варожасьць Ураду да беларускай людиасьці (п. Рымар: А крэдыты на гэтыя курсы ёсьць). Што-ж з таго, што ёсьць крэдыты, калі ўжо год мінае, а курсаў няма! (п. Рымар: Два месяцы таму Урад пастанавіў, каб грошы на гэтыя курсы ўставіць да бюджэту).

Далей, мушу зьвярнуць увагу на некаторыя рэчы, якія ўспомніў п. Рымар у сваей справаздачы. Я дзіўлюся, што афіцыяльны справаздаўца бюджэту маець такія інфармацыі. Такімі ведамасьцямі вы корміце цэлае грамадзянства, а нават тымі нясьціслымі і няслушнымі інфармацыямі і ня маючымі мейсца вы карыстаецеся і на міжнародавым рынку.

Перад усім п. рэфэрэнт сьцьвярдзіў, быццам ў цяперашняй хвіліне істнуе беларускіх школ урадовых 32, а **двуязычных каля 200**. Дык-жа, п. Рэфэрэнце, мушу сьцьвердзіць, што **гэтага зусім няма!** Мо' гэта ёсьць якаясь старая цыфра, але, сяньня школ беларускіх ёсьць найбольш 10, а што да школ двуязычных, то **агулам школ утраквістычных на беларускім абшары няма**, і калі-б такія ўтраквістычныя школы і былі то-ж няма яшчэ мовы аб тым, якія прадметы маюць выкладацца пабеларуску, а якія не, і думаю, што гэты момант, калі і створыце нейкія эрзац-школы, то гэты момант будзе служыць перашкодай да зьдзейсьненьня языковых уставаў, бо трэба будзе разьвязаць пытаньне на падставе так-жа інструкцыі, якія прадметы маюць выкладацца пабеларуску, а якія папольску.

Мушу так-жа сказаць некалькі слоў аб беларускай сярэдняй школе. Гэтае школьніцтва таксама вядзе жыцьцё страшнае. Тры гімназіі: у Вільні, Навагрудку і Радашкавічах ня маюць ніякіх субсыдыяў і прыгавораны на сьмерць. Іншая справа, што мы не дадзёмся, але Урад таго жадае і заўсёды вядзе варожую да нас палітыку, ня гледзячы на тое, што **нашая людиасьць плаціць вялікія падаткі**, а ніякага эквіваленту ў справе школьніцтва ня мае.

П. Рымар сказаў, паміж іншым, у сваей справаздачы, што быццам нашыя скаргі адносна да асьветы—няслушныя, бо-ж польскай меншасьці ў іншых дзяржавах жывецца куды горай, як нам у Польшчы. Восьжа мушу сказаць, што як-бы там ні было, то ўсёжтакі , напр. у Літве, палякі маюць некалькі ўрадовых гімназіяў, цэлую сетку ўрадавых пачатковых школ, маюць вызначаную ў літоўскім бюджэце на польскія школы сталую суму.

Таксама ў Латвіі. Пазаўчора я меў шчасьце бачыць майго акадэміцкага калегу, цяперашняга пасла да Латвійскага Сойму, каторы мне сказаў, што ў Латвійскім бюджэце вызначана сума на беларускае школьніцтва прапарцыянальна да ліку беларусаў. А мы тут нічога ня маем—аднак, п. Рымар, публічна сказаў, што нам „надта добра“. Хіба добра дзеля таго, што мы абсалютна засуджаны на зьнішчэньне! Таксама ў Саветах, да каторых ня маю асаблівай пашаны за культываваньне там бяздушнага матар'ялізму, фактам зьяўляецца, як гэта і п. Рымар сьцьвярдзіў, што ёсьць соткі польскіх школ у Савецкай Беларусі і Украіне.

Наканец мушу сказаць, што ня ўсё ў парадку і ў жыцьці рэлігійным сярод каталікоў беларусаў, не гаворачы—дзеля нястачы часу — аб такім-жа жыцьці беларусаў праваслаўных. Напрыклад такая справа: Нядаўна ўрад звольніў з пасады прэфэкта кс. Семашкевіча, пробашча ў Лаварышках дзеля таго, што ён беларус і што карыстаецца беларускай мовай. Таксама проціў кс. Шутовіча ў Барадзенічах, Дзісьненскага пав., вядзецца цэлая барацьба куратарыумам і інспэктарам, якія не дапушчаюць яго да школы дзеля таго, што там ён рэлігію выкладае пабеларуску, а робіць гэта на выразнае жаданьне беларускай людиасьці. Ня думаў я, каб ў гэтай справе ў Польшчы было горай, чым за расейскіх часоў, калі палякі навуку рэлігіі ў школах мелі ў астатніх часох папольску. Дзеля чаго-ж Беларусы ня могуць вучыць сваіх дзяцей рэлігіі ў мове матчынай?!

Далей, процiў кс. В. Гадлеўскага ў Сьвянцянскім пав., толькі за тое, што на жаданьне людиасьці гаворыцца навука пабеларуску,—на жаданьне пракуратуры і некаторых асоб з правіцы аж два разы сьледчы судзьдзя вёў сьледзтва, каб у яго дзейнасьці знайсьці нешта „паньствовае“. І нічога ня мог знайсьці, бо мы маем права ўжываць сваю мову і ў касьцеце і за касьцёльм. Наканец, кс. Рамейка ў Задарожы, Дзісьненскага пав., за сваю беларускасьць перацярпеў гэткую няпрыемнасьць: нейкі шпіён украў у гэтага ксяндза брашурку „касьцельныя песьні“ з апрабатай біскупа Цепляка. Зрабілі з гэтага справу аб процідзяржаўнай яго дзеяльнасьці. Рэч простая, — пракурор адаслаў тую брашурку назад. Справа была скасавана, але сам факт вельмі характэрны, паказуе, у якіх варунках прымушаны мы жыць у Польшчы. Выглядае, што быццам мы жывём у Гонолюлю, а не ў дзяржаве канстытуцыйнай.

Што да маей урэшце асобы, дык магу прызнацца, што вельмі часта да беларусаў гавару навукі пабеларуску, зусім апалітычныя, бо ніколі палітыкай на амбоне не займаюся. Дый я недаспелы чалавек, каб публічна гаварыць тое, што выразна працівіцца ўрадовым законам. Аднак, гэта часта закідаюць мне, а паліцыя нават робіць на мяне даносы да Міністэрства, а Міністэрства да біскупа, і ў выніку гэтага я маю вялікія прыкрасьці, як быццам я ў сваіх навуках гавару, што агулам польскага ўраду можна ня слухаць, што трэба залажыць Беларусь, выгнаць паліцыю і г. д. Праўда, гэта ўсё роўна; могуць сабе нашы ворагі так ці іначай пісаць і так ці іначай углядацца на гэтыя справы. Яно сапраўды ідэалам маім ёсьць Незалежная Беларусь, але што такім спосабам яе не здабыць разумеем самі, што гэтыя зьдзекі значаць і да чаго вядуць. Гэта добра характэрызуе тую высокую нелёяльнасьць і варожасьць польскіх урадаў і польскага грамадзянства з малымі выняткамі да беларускай людиасьці і да яе найбольш падставовых і сьвятых правоў.

Запраўды-ж палажэньне нашай людиасьці вельмі цяжкое з боку культурнага і асьветнага. Ня думаем, аднак, каб было яно безнадзейнае, бо, калі народны арганізм жывы і калі беларускі рух мае глыбей свае падставы, чым паны думаеце, то мы будзем жыць і гэтыя перашкоды пераможам таксама, як і панове перамаглі свае перашкоды **(Голас:** перажывем яшчэ і п. Грабскага!). Але, што датычыцца выхаду з гэтага цяжкога палажэньня, то кажу, што ня бачу яго ў тых канцэпцыях, на каторыя паказываў мой калега пан Тарашкевіч у сваей прамове падчас агульнай дыскусіі аб бюджэце. Бачу выхад з гэтага палажэньня ў арганізаваньні беларускіх масаў, у стварэньні зусім незалежных сялянскіх арганізацыяў. Адным словам, бачу выхад для нашай культуры і нашага нацыянальнага і соцыяльнага адраджэньня ў сьведамасьці нацыянальнай і культурнай беларускіх масаў і ў арганізацыі гэтых масаў на грунце зусім сваім, родным.

Думаю, што такім спосабам, стануўшы на грунце, зусім датарнаваным да псыхалёгіі і вымаганьняў сацыяльных і культурных нашых сялянскіх масаў, правы свае здабудзем і пэўна-ж усе труднасьці, якія стаўляе нам польскі ўрад, пераможам.

П. Грабскі, цяперашні мін. асьветы, аб нашым школьніцтве нічога не сказаў, ці не хацеў нічога сказапь. Сказаў толькі агульна, што языковы ўстаў будзе ўведзены ў жыцьцё. Панове разумееце, што гэтая заява нічога ня варта, што гэта роўна нулю.

Да такога Ураду, да такога Міністра ня можам мець даверыя і будзем галасаваць проці бюджэту Міністра Асьветы. (Воплескі на левіцы).

# Бюджэт Польшчы у Сойме.

### Страхі, закіды і камплімэнты эндэкаў.

Пас. **Гломбіньскі** (эндэк), падчырківаючы бездэфіцытнасьць бюджэту, паказуе аднак-жа на тое, што даходы могуць „не дапісаць“... Але тады міністар фінансаў мае права... (!) зьменшыць крэдыты на выдаткі...—Але тады гэта-ж зусім ня тое, што называецца **бюджэтам** у канстытуцыйным гаспадарстве! Гэта тады — зусім мала абязываючае ўрад „пажаданьне“ Сойму, а не закон!..

Аратар сьцьвярджае, што **міжнародавае палажэньне Польшчы ўсьцяж пагаршаецца**, перашкаджаючы „санацыі“ яе. Польшчу вінавацяць у імпэрыялізьме нават яе замежныя прыяцелі... Паднятая ізноў справа **няпэўнасьці польскіх граніц** адстрашывае ад Польшчы нават прыхільных да яе замежных капіталістаў. —і тыя **не даюць Польшчы крэдыту, баючыся страціць свае „фундушы“—у часе пагражаючай Польшчы вайны**... Гэта забівае Польшчу гаспадарча...

У канцы эндэцкі правадыр трэбуе ад ураду **скасаваньня „некаторых сацыяльных заваяваньняў работнікаў“!..**

У заключэньне правадыр **правіцы** з здаваленьнем сьцьвярджае, як камплімэнт **лявіцы** (кланяйцеся, паны пэпэсаўцы!), у многіх справах **салідарнасьць** пагляДаў абедзьвюх паловаў Сойму...

**„Wyzwolenie“ і... разрыў дыплёматычных зносінаў з Англіяй—„Wyzwolenia“...**

Пас. **Рудзіньскі** (Wyzwolenie) сьцьвярджае, што зраўнаважаны бюджэт усім цяжарам кладзецца на плечы працоўнага народу. Але гэты народ, ня гледзячы на гэта,—ня мае ніякага ўплыву на дзяржаўную ўладу... Урады польскія штучна кармілі польскую прамысловасьць, абдзіраючы дзеля яе сялянства, і—ў рэзультаце — выраджэньне і крах гэтай прамысловасьці, яе няздольнасьць да канкурэнцыі і—зусім згалелая, зруйнаваная вясковая гаспадарка, хаця імённа апошняя магла-б, як у Даніі, зрабіць край гаспадарча-незалежным. Але дзеля гэтага трэба было зрабіць зямельную рэформу, якая дагэтуль у Польшчы астаецца **пустой фразай...**

На адклад зямельнай рэформы сялянскія масы адказалі дасьпеўшым ужо зусім **трэбаваньнем зямлі бяз выкупу...**

У канцы загалёпаваўшыся аратар трэбуе адазваньня польскага пасла ў Англіі Скірмунта, які дапусьціў (!), каб Англія адкрыта пачала гутарку аб зьмене граніц Польшчы. Гэтыя словы ўсе зразумелі, як **трэбаваньне разрыву дыплёматычных зносінаў з Англіяй...**

Пераходзячы да „вострай апазіцыі“, старшыня „Вызваленьня“ сам сьцьвярдзіў, што яго клюб дагэтуль „даходзіў у сваей ахвярнасьці да таго, што браў на сябе цяжар (!) утрыманьня правіцовага ўраду“...

Цяпер гэты ўрад, відаць, можа ўжо трымацца і сам без „Wyzwolenia“, бо пакуль што „цяжар“ гэты ўзялі на сябе (далей пабачым, за што) паны пэпэсы...

### Санацыя скарбу—коштам працоўных. „Сымвал веры“ п. п. пэпэсаў

Пас. **Барліцкі** (P. P. S.) лічбава даводзіць, што валадаючыя клясы амаль не на цэлую траціну не даплацілі сваіх (беспасрэдніх) падаткаў у 1924 г., а працоўныя клясы заплацілі ўсё — нават на 86 мільёнаў больш, чым было прадбачана ў бюджэце. І гэта—ня гледзячы на тое, што пасрэдніх падаткаў (плочаных найбольш працоўнымі), амаль не ў 4 разы больш, чым простых налогаў...

Ясна, чым коштам трымаецца бюджэт... Падаткі пасрэднія (акцызы і інш.) зрабіліся ўжо зусім непасільнымі.—Дзякуючы ім, **Польшча—найдаражэйшы край у сьвеце.**—Цана хлеба паднялася на 100%! Але хлеб вытварае на прадажу не хлебаробселянін, але абшарнік, які і падбівае цану. Абшарніцтва—гэта перажытак гнілое мінуўшчыны, які трэба, нарэшце, скасаваць раз назаўсёды! Руйнуючы сялянства, урад Грабскага руйнуе і прамысловасьць, якую падтрымлівае штучна,—руйнуе гэтым і мястовага работніка.

Лідэр пэпэсаў гумарыстычна пагражае прэм'еру апазыцыяй (?!), калі ён... не „зраўнаважыць, як бюджэт, так і свой зусім ужо правіцовы (з уваходам эндэка Ст. Грабскага і пястоўца Радвана) габінэт—**якім-сь лявіцоўцам**“.

Тут—увесь Сойм пасьмяяўся, бо ведаюць добра ўсе, што гэтыя пагрозы—прыяцельскія!..

Кажучы аб „крэсавай палітыцы“, прамоўца дамагаецца зьмены міністра ўнутраных спраў, Ратайскага, які нічога не разумее ў справе „Крэсаў“, (як прызнаўся сам!), і паўтарае ўсё, што ўжо шмат разоў было казана.

Аб замежнай палітыцы кажа, што „англійцы пакуміліся з немцамі, каб абрэзаць польскія граніцы“...

Ў канцы лідэр P.P.S. заяўляе, што **„верыць у тое, што ўрад п. Грабскага выпаўніць... усе дамаганьні“ яго клюбу!..**

„Credo, quia absurdum“ *) казалі калісь першыя хрысьц'яне...

### 7 гадоў валакіты.

Пас. **Кернік** (Пястовец) сьцьвярджае таксама, што санацыя скарбу адбылася коштам зруйнаваньня шырокіх масаў сялянства і што зямельная рэформа „ўжо 7 гадоў таўчэцца між урадам і Соймам—бяз усякага скутку“...

— Ад Анны да Кайафы — ад Кайафы да Анны...

### „Выглянсаваны—для заграніцы“...

Прадстаўнік немцаў п. Пэш лічыць бюджэт нерэальным, але **„штучна-wyglansowanym“**—без дэфіцыту, каб лягчэй прывабіць лёгкаверны (?!) заграгічны крэдыт...

Палітыка Польшчы вытварае атмасфэру ненавісьці ў Эўропе...

### „У стане вайны“.

Прадстаўнік жыдоў п. Райх сьцьвярджае, што тугуттаўскія праекты і законы для меншасьцяў робяцца толькі на паперы для заграніцы. Дзеля таго жыдоўскі клюб застаецца **ў стане вайны** адносна да ўраду і ня мае да яго даверыя.

### Палеміка... з Англіяй!

„Хрысьціянскі (!) абшарнік“ п. **Строньскі** палемізуе з Англіяй за яе „правакаваньне“ Нямеччыны да нападу на Польшчу. Ён чытае цікавы адрывак з англійскай газэты, якая перакanana, што **„нават разброеная, як цяпер, Нямеччына здалее хутчэй, чым за месяц, „паставіць Польшчу на калені“... Дык трэба, пішаць яна, чым хутчэй, зьмяніць польскія граніцы, каб ратаваць Польшчу“.**

### „Антысялянскі бюджэт“ ураду „сям'і Грабскіх“.

Украінец **Васыньчук** у гарачай прамове сьцьвярджае, што і гэты бюджэт, як леташні, — бюджэт **мілітарыстычнай паліцэйскай дзяржавы**, а перадусім бюджэт—**антысялянскі**. Урад „сям'і Грабскіх“ давёў падаткамі „Крэсы„ да голаду. Прамоўца скардзіцца на скулу асадніцтва, на масавыя аблавы на людзей і арышты — замест адбудовы краю і выкананьня законаў...

*) „верую, бо недарэчна“...

Перад усім сьветам аратар пратэстуе проці таго, што нацыянальны адраджэнскі рух украінцаў правакацыйна душыцца і выстаўляецца ў Польшчы, як камуністычны.

На гэтую правакацыю украінскі народ адкажа адзіным нацыянальным фронтам—недаверыем да гэтага ўраду.

### Крэдытная мана для сялянства, палітычныя ашуканцы і тры „ўсходнія мудрацы“.

Былы пястовец, цяпер прадстаўнік „Сялянскага Саюзу“ п. Брыль у дасьціпнай прамове сцьвярджае, што так званы дробны крэдыт для земляробаў—**адна мана**. Гэтыя ўсе банкі толькі даюць пазыкі праз пястоўскіх паслоў, памагаючы гэтак розным „палітычным ашуканцам“ выробляць сабе „апінію“ сярод выбаршчыкаў... Адначасна ўрад праз гэты банк падкармлівае і самых пястоўцаў, трымаючы іх у—стане „няшкоднай апазіцыі“.

Усходнюю палітыку на Крэсах робяць аднолькава нягодна ўсе тры „ўсходнія мудрацы“: Ратайскі, Тугутт і Грабскі, **найгоршае, што толькі істнуе на Крэсах, гэта—вясковая паліцыя!..** Скарбовая адміністрацыя, найлепшая, калі трэба абдзіраць на падаткі згалеўшых сялян; вось толькі абшарнікаў п. Грабскі пужаў канфіскацыяй зямлі за неаплату падаткаў, але, як відаць з лагоднай прамовы п. Гломбіньскага, дараваў ім усе нядоімкі...

Суд у Польшчы, гэта—запраўдная „незалежная **партыя**“, якая на жаль, не стаіць толькі на адпавядаючай яе незалежнасьці вышыні...

Дзеля ўсяго гэтага ўсё сялянства ў Польшчы—70% яе насяленьня—траціць (!) даверые да польскай дзяржавы. Дык зусім не да рэчы пахваляўся ў Парыжу мін. Сікорскі, быццам „мае — на выпадак вайны—4 міліёны ваенна-абучаных жаўнераў“...

### „Яшчэ мала“!

Прамову пас. Тарашкевіча мы далі паводле стэнаграмы.

Трэба толькі дадаць, што ў часе яго прамовы было вялікае „узбурэньне“ і беларускі народ не забудзе ніколі аб тым, што, калі яго пасол казаў, як паліцыя ў часе обыскаў і арыштаў катавала людзей, вырывала пазногці, адразала кабетам грудзі, тады ў Польскім Сойме з лавак польскай правіцы раздалося выразнае: **„Яшчэ мала гэтага!“...**

### Парцэляцыя для ўрадоўцаў—замест зямельнай рэформы.

Былы „вызваленец“, д-р Фідэркевіч сцьвярдзіў, што міністэрства „зямельных рэформ“ толькі напладзіла вялікую масу чыноўнікаў, а замест рэформы робіцца парцэляцыя зямлі, якую дастаюць пераважна не сяляне, але... чыноўнікі-ж!

„Народ досьць ужо мае гэтай „цывілізацыі“, якая палягае на вялікіх дварох абшарнікаў, на тоўстых трыбухах ксяндзоў і на біткам набітых работніцкай і сялянскай моладзяй, нават дзяцьмі! — вастрогах“!.. „Прыдзе, нарэшце — і хутка! і ў Польшчы наш сялянскі ўрад!“...

### Адзіны шлях...

Украінскі камуніст п. Скрыпа кажа, што п. Грабскі рыхтуецца старанна, але разам і баіцца рашучага бою з працоўным народам, дзеля таго творыць арміі чыноўнікаў, жаўнераў, паліцыянтаў, біскупаў, ксяндзоў і манахаў...

Ані украінскай, ані беларускай справы ня можна вырашыць у Польшчы інакш, як **„вярнуўшы гэтыя няпольскія абшары С. С. Р. Р.** (Шум на правіцы і лявіцы).

Гэтым быццам агульная дыскусія аб бюджэце скончана. Сойм перайшоў да абгавору каштарысаў паасобных міністэрстваў.

# Беларускі працэс „72“.

### 4 дзень.

Зьявіўся на суд сьледчы Комар, які заявіў, што ўсе літвіны давалі паказаньні папольску і разумелі польскую мову.

Сьведка **Сухадольскі Міх.**, вывядоўца, заявіў тое, што і другія сьведкі з паліцыі. Гаварыў **са слоў абвінавачаных**. Падкрэсьліў, што, як быў арыштаваны Туропіс, то паказаў на Бэрнатовіча, затым калі арыштаваны быў Адаменя, то, заявіў што яго нагаварыў уступіць да партызанкі Гайціс (ён памер у вастрозе).

На запытаньне адв. **Міцкевіча**, ці ён дапрашываў Апонікаў, сьв. Сухадольскі заявіў, што **не памятае**. Сьведку ведама, што Відзбель быў начальнікам района партызанаў, але на запытаньне адв. Врублеўскага заявіў, што чуў ад абвінавачаных, але ад каго **не памятае**.

Сьв. **Нарымскі Ян**, старшы пшодоўнік паліцыі ў Горадні, заявіў тое, што і іншыя сьведкі. Юрэчка Баз. меўся ўзарваць D. O. K. III і каля 26 казённых дамоў, бо Юрэчка меў знаёмых беларусаў на тэлеграфе і ў D. O. K. III, якія дапамаглі-бы яму. Але-ж усе гэтае Нарымскі ведае са слоў арыштаваных, якія паказалі на Юрэчку.

(Як ужо ведама нам, апошнія паказалі, што іх білі і змушалі, каб гэтак паказвалі).

Затым, калі быў арыштаваны Гайціс і прывезены ў Горадню, дык заявіў, што ў яго ёсьць аружжа, і ён можа паказаць, дзе яно. Тады паехалі зноў з Гайцісам, які і аддаў аружжа.

Таксама сьведка заявіў, што, як Адаменя варочаўся з Мэрэча і зайшоў у Сьвінылес (вёска) да пасынка Гайціса, Яна Вялентукевіча, дык апошні пайшоў да Сяргейчыка і прынёс 15 карабінаў і даў для партызанаў у Бэршты.

У пав. Сакольскім быў арыштаваны Мішчук Язэп, які з Станкевічам павінен быў узарваць у Беластоку Давудзтва II дывізіі.

На запытаньне пракурора: калі атрыманы ведамасьці аб арганізацыі партызанаў? — Нарымскі сказаў, што ў той час, як быў арыштаваны Шыгаловіч. Пры гэтым заявіў, што партызанам быў той, хто меў аружжа.

Сьв. **Браўн, вывядоўца ў Горадні**, нічога новага не дадаў.

На заяву абвінавачанага Семенякі Уладз., што, як ён быў арыштаваны, дык, хоць ахвіцэр рэзэрвы польскіх войск, быў біты сьведкай Браўнам, апошні кажа, што, не памятае, каб дапрашываў ці біў Семянюка.

Сьведка абвінавачаньня **Сарока Юры**, з вёскі Верцялішкі, Горадзенскага пав. (мае вельмі важнае значэньне) заявіў, што нічога ня ведае. Тады судзьдзя спытаўся, дзеля чаго ён гаварыў, як быў арыштаваны?

Сьведка заяўляе **пабеларуску**, што, калі яго арыштавалі, то бязлітасна білі і далі нейкі пратакол падпісаць, але-ж ён усё-ж такі адмаўляўся ад падпісаньня. Тады вывядоўца Ліс і яшчэ другія нацкаваў на яго сабаку, які пакусаў нагу і ў іншых месцах. „Дык пад такім допросам мяне змусілі да таго, чаго хацелі, і сяньня, стоючы перад судом, я аб гэтым заяўляю і гавару праўду, што нічога ня ведаю. Але-ж гаварыў, бо білі і цкавалі сабакаю“.

Сьведка **капітан Ярэцкі Станіслаў**, кіраўнік дэфэнзывы Д.О.К. III, вядомы з Беластоцкага працэсу 45, кажа, што яму ведама аб істнаваньні IV групы партызанаў у Мэрэчы, створанай урадам Ластоўскага. Мэтай партызанаў было адарваць беларускія землі ад Польшчы і стварыць Беларускую Народную Рэспубліку ў фэдэрацыі з Літвою.

Юрэчка яму ведамы, як беларус, па яго беларускай працы (быў у Грамадзе Моладзі ў Горадні; легальнай арганізацыі). Пра Бортнікова ён чуў, як аб адным з працаўнікоў Хмары ў Мэрэчы.

Шмат у якіх паказаньнях сьведка памыляецца. Гэтак ён кажа, што беларуская брыгада, якая была сфармавана па загаду Начальніка Дзяржавы, была зьліквідавана у 1919 г. Запраўды-ж беларуская брыгада была зьліквідавана ў Лодзі ў 1921 г. пасьля міру з бальшавікамі.

Сьв. **Станіслаў Павляк** (канфідэнт) заявіў, што ён ведае Юрканіса, з Літвы, які быў партызанам і ўзарваў мост на р. Нёмне ў Друскеніках (цікава, што ў той час Юрканіс меў 15 гадоў). Калі сьведка хадзіў у Літву да **Лейпун**, дык Юрканіс у яго патрэбаваў грошы і заўсёды лаяў.

На запытаньні адвакатаў, ці кожны меў права хадзіць у Літву, ці для кожнага можна было атрымаць пропуск ад польскай улады і чаго ён сам хадзіў у Літву.—Сьведка досіць ясна і зразумела для ўсіх тлумача, што ён, як канфідэнт паліцыі, даставаў пропуск і хадзіў у Літву да сваей нявесты; хаця аб ім ведалі ў Літве, што ён служыць у паліцыі, але-ж ніхто не чапаў. Затым купляў жывёлу ў Літве і прыганяў да сябе ў Польшчу, але падарозе, калі спатыкаў яго Юрканіс, дык трэбаваў, каб ён яму за гэта плаціў.

Абв. **Юрканіс** заявіў, што ён яго ніколі не спатыкаў і ня мог быць яго таварышам, бо меў у той час 14 гадоў, а Павляк 27 г.

Затым сьведка гавора, што, калі ня было Разумовіча, дык яго заступаў Бортнікаў, а Круш быў агітатарам.

**Бортнікаў** заявіў, што яго ня ведае.

Сьв. **Хоха Константы**, паліцыянт з Бэршт, заявіў, што арыштаваў партызанаў Сыльвэстра Зелеўскага і Эпіфана Ушкевіча, якія два разы ў яго ўцякалі. Затым сьведка зьявіўся да памешканьня Зелеўскага, які некалькі мінут перад тым прыйшоў з Літвы і паказываў яму літоўскае вайсковае ўбраньне. Сам сьведка не дапрашываў арыштаваных, а камандант пастарунку.

Абв. **Зелеўскі** заявіў, што сьведка запраўды яго арыштаваў, але-ж ён сам заявіў, што быў у Літве і служыў у літоўскай арміі, а па звальненьні прыйшоў дамоў і прынёс з сабою вайсковую вопратку.

На запытаньне пракурора, ці сьведка дапрашываў Юзэфа Сяргейчыка,—сьведка заявіў, што дапрашываў, і той прызнаўся да віны.

Вызваны Юз. Сяргейчык заявіў, што ён не прызнаваўся да віны, але-ж да гэтага быў прымушаны біцьцём і прыстаўленьнем рэвальвэра да грудзей з пагрозай забіць.

Затым былі дапрошаны некалькі сьведкаў з боку абароны, якім далёка было да хаты, паміж іх ксёндз Цэгліс, Новадворскага прыходу, Лідзкага пав. Усе сьведкі сцьвярджалі нявіннасьць арыштаваных і што яны не належалі да арганізацыі партызанаў.

На гэтым закончыўся 4 дзень працэсу.

(Канец будзе).

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Сьпяшаюцца.

У маршалка Сойму адбылася нарада з учасьцем ваеннага міністра, на якой пастаноўлена, як найхутчэй правясьці праз Сойм новы закон аб арганізацыі найвышэйшых уладаў у арміі.

Як ведама, справа датычыць павароту на службу ў армію маршалка Пілсудскага, які—на выпадак вайны—мае быць глаўнакамандуючым польскіх аружных сілаў...

### Новы клюб „Праца“.

Паслы і сэнатары, выступіўшыя са страху перад „адабраньнем зямлі бяз выкупу“ з „Wyzwolenia“, утварылі новы клюб—„Клюб Працы“.

Да клюбу гэтай варшаўскай „Labour Party“ ўвайшоў і „дзікі“ сэнатар Кшыжановскі, а мае ўвайсьці—як пішуць польскія газэты—і сам п. Тугутт.

Нашы інфармацыі аб гэтым, надрукаваныя йшчэ ў № 22 „Бел. Долі“ (з 1-га красавіка), значыцца, у поўнай меры апраўдаліся!

### Катастрофа з польскім цягнікам у „польскім калідоры“.

У ноч на 1-га траўня з нямецкім цягнікам, які йшоў праз „польскі калідор“ з Бэрліна ў Кенігсбэрг (Усходняя Прусія), здарылася катастрофа з прычыны праступнага папсаваньня рэльсаў. Сьледзтва вядзецца пад няглядам вышэйшых уладаў Польшчы.

### Выбух у рэдакцыі газэты „Wola Ludu“.

2-га мая ў кватэры рэдактара газэты „Wola Ludu“ Траяновскага ў Варшаве зрабіўся моцны выбух, якім цяжка ранены сам рэдактар Траяновскі. Сьледзтва вядзецца ўтайне, але правыя газэты даюць весткі аб тым, быццам рэдактар рабіў бомбу—на ўрачыстасьць 3-га траўня, ды што вобыск у яго кватэры выкрыў шмат пораху, піраксыліну і г. д. (?!).

### Суд над жаўнерамі-баптыстамі.

У Лодзі ваенна акружны суд засудзіў 4 жаўнераў-баптыстаў, якія адмовіліся выпаўняць загады начальства ў часе вучэньня, заяўляючы, што іх рэлігія не дазваляе ім ужываць аружжа. Двое атрымалі па $2^1/_2$ і двое па 2 гады вастрогу.

### Працэс аб шпіёнстве.

У варшаўскім акружным судзе закончыўся працэс—пры зачыненых дзьвярох—9 асоб, абвінавачаных у шпіёнстве.

Суд прызнаў вінаватымі і прысудзіў: Мікалая Пэтэра на 8 гадоў катаргі, Робэрта Лучака — на 4 г., Эдв. Казлоўскага—на 2 гады папраўчай турмы, Юзэфа Цывіньскага—на 4 гады вастрогу, Ст. Цывіньскую на 1 год, Барыса Сулімава — на 4 г. катаргі, Еф. Трыкена—на 3 г. вастрогу.

Ляшчыньскі і Грыгорыеў апраўданы.

## Заграніцай.

### Мітынг пратэсту проці белага тэрору ў Польшчы.

У Лёндане адбыўся мітынг пратэсту проці пануючага ў Польшчы белага тэрору. На мітынгу прамаўлялі сябры парляманту. Прынята рэзалюцыя з дамаганьнем звальненьня 8 тысячаў палітычных вязьняў, у тым ліку паслоў Ланьцуцкага, Барана і інш., якія гніюць у польскіх вастрогах.

### „Таварыства вызваленьня Вільні“ ў Коўні.

У Коўні ўтварылася таварыства, якое мае мэтай вызваленьне Вільні ад Польшчы. У склад ураду таварыства ўваходзіць, паміж іншымі, Міхал Біржышка, добра вядомы ў Вільні літоўскі пзеяч сац.-дэм.

### Троцкі ў Маскве.

У Маскву на агульны зьезд камуністычнае партыі прыехаў Троцкі, які мае прыняць гарачае ўчасьце ў дыскусіі на чале сваіх прыхільнікаў.

### Пагляды Гіндэнбурга (?)

Французская газэта „Matin“ так фармулуе пагляды Гіндэнбурга:

1. Усе ўмовы, падпісаныя левымі нямецкімі ўрадамі, ня маюць сілы (?!);

2. Француска-нямецкае паразуменьне павінна быць вольнае, абапертае на ўзаемным інтарэсе;

3. Гэтае паразуменьне, маючы найлепшыя арміі, было-б найлепшай гарантыяй проці бальшавізму;

4. Польшчы трэба... кампэнсаваць неадхільныя страты зямель на Захадзе, каб яна ня чулася пакрыўджанай (!?);

5. Нямеччына назаўсёды адракаецца ад Эльзасу і Лётарынгіі.

Цікава толькі, што дасьць Гіндэнбург Польшчы ў кампэнсацыю?

### Нямецкія сацыял-дэмакраты.

Нямецкая сацыял-дэмакратыя адмовілася ад прапазіцыі камуністаў стварыць адзіны супольны фронт проці буржуазіі...

### „Змова“ проці Чэмбэрлена.

У Лёндане выкрыта камуністычная (?) змова,

